■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



**Адказы на пытанні мінулага нумару.**

Правільных адказаў ад чытачоў на пытанні мінулага нумару не было.

**1. Таямнічая кветка**

Гэтая кветка – крокус ці шафран.

**2. Палавіна вагу набрала**

Пры стандартным тэсціраванні нейкага медыкаменту палова групы прымае бяздзейныя і бясшкодныя таблеткі (для кантролю). Усе ўдзельнікі тэставання, пра якое ішла гаворка ў заданні, не абмяжоўваліся ў ежы, каб прадэманстраваць эфектыўнасць дзеяння гэтай пілюлі без дыеты. Таму тыя, хто прымаў "пустыя" таблеткі, набралі вагу.

**3. Да дзевятага не даязджае**

Гэты чалавек – карлік і не дастае да кнопкі "9".

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Піўная калекцыя



Сітуацыя, здаецца, недзе абыгрывалася, але за што купіў (пачуў), за тое і прадаю (расказваю). Такім чынам, адзін з інтэрнатаў Белдзяржуніверсітэта, справа адбывалася напрыканцы 70–х. Студэнты, як вядома, таксама людзі, і калі адзін мой знаёмы рыхтаваўся да экзаменаў выключна з парай бутэлек "чарніла", то другі аддаваў перавагу выключна піву. Прычым, калі нёс з сабою бутэлечнае, то пустую тару не здаваў: недаспадобы яму быў такі занятак. Хаця і гавораць, што на здадзеныя бутэлькі студэнт можа ўсё жыццё не працаваць.

З цягам часу (не буду ўдакладняць, на якім курсе) убудаваная шафа ў пакоі была занятая практычна аднымі пустымі бутэлькамі. У адзін цудоўны дзень студэнцкія інтэрнаты БДУ пачала абыходзіць з праверкай камісія з прафкома і адміністрацыі. Чатыры ці пяць суровых мужыкоў заходзяць у пакой, і апошні абсалютна дарэмна моцна грукае дзвярыма, калі зачыняе іх. Бутэлькі адразу выйшлі са стану няўстойлівай раўнавагі і хлынулі пад ногі правяраючым.

Студэнты толькі–толькі схавалі калоду картаў ды паперку з прэферанснай пулькай, а тут такі пракол. Натуральна, суровыя мужыкі радасна тыцкаюць пальцамі ў бутэлечную стыхію:

– П'яце!?

Студэнты неадкладна губляюць мову (так і з інтэрната вылецець можна, а "пад раздачы" і з універа), аднак вышэйшы клас паказаў уладальнік бутэлек:

– Вы што? Гэта ж мая калекцыя!

Пасля такіх патэтычных словаў ён укленчыў перад "калекцыяй" і пачаў шукаць бутэлькі з дэфектамі ліцця, фірмовыя бутэлькі з эмблемамі вырабляльнікаў (якія там былі вырабляльнікі раней? Ды і піва было толькі "Жыгулёўскае") – трагедыя чалавека, якога незаслужана зняважылі. Пры тым, у вачах стаяць самыя натуральныя слёзы.

Правяраючыя некаторы час не могуць нічога сказаць, затым аднаго прабівае на разумовую дзейнасць

– Не гані! Яны ж тут амаль усе аднолькавыя.

На гэта калекцыянер выдае фразу, якую, мусіць, не адзін год паўтаралі. Дрыжачым голасам, шэрым ад страху тварам ён прахрыпеў:

– Аднолькавыя?.. Гэта для вас яны аднолькавыя, а я іх для абмену трымаю!

Пасля чаго забіўся на ложак і адвярнуўся да сцяны. Праверка крыху яшчэ пастаяла, затым моўчкі сышла.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

■ ПРЫРОДА І МЫ

## На Узвіжанне ў лес не хадзіце

**Узвіжанне адзначаецца 27 верасня ў праваслаўных і 14 верасня ў католікаў. У кожнай вёсцы ведаюць, што ў гэты дзень небяспечна хадзіць у лес, бо змеі адусюль збіраюцца ў адно месца, каб паўзці на зіму ў свой змяіны вырай. У гэты час, нібыта, яны асабліва агрэсіўныя і ядавітыя.**

І на самой справе, усе змеі Беларусі – гадзюка звычайная (адзіная ядавітая змяя), вуж, мядзянка (занесеная ў Чырвоную кнігу РБ) і бязногая яшчарка вераценніца ломкая (вельмі падобная на змяю) – на зімоўку залягаюць у канцы верасня. Зімуюць яны вялікімі групамі-клубкамі (да некалькіх дзесяткаў) у норах, пустотах пад каранямі дрэў, пад стагамі сена. А перад зімоўкай збіраюцца вялікімі кучамі, каб апошні раз пагрэцца пад промнямі яшчэ цёплага восеньскага сонейка.

Тыдзень таму збіралі грыбы. Раптам пачуў характэрны шолах. Паўзла гадзюка, сантыметраў сорак, шэрая (можа быць чорная ці нават амаль чырвоная) з карычневым узорам. Я ціхенька пайшоў за ёй, метраў праз пяць яна прапаўзла каля вялікага падасінавіка. Пакуль я зразаў грыб, гадзюка знікла ў верасе.

А вось з вужом нават давялося пагуляць у даганялкі. Плаваў па Нарачанцы, калі ўбачыў вужа, які плыў. Над вадой тырчала галава – сантыметраў на 10, з дзвюма белымі (могуць быць жоўтыя) плямамі па баках.

Я пагнаўся за ім і, хаця быў у ластах, дагнаць вужаку не змог. А вуж стралой выскачыў на бераг і схаваўся ў кустах ажыны.

А вось мядзянку (завецца так таму, што пуза чырвонае ці аранжавае, колер медзі) давялося сустрэць маёй маці і дачцэ. Яны ішлі дадому, калі ўбачылі, што ў баразне паўзе змяя. Спалохаліся, маці схапіла цяпку і... Вось так, па няведанні, загінула прыгожая істота, занесеная ў Чырвоную кнігу Беларусі.

Верацённіцу ломкую сустракаць не даводзілася, але людзі расказвалі, што пазнаць яе можна па хвасце: ён згінаецца пад вуглом, быццам, ламаецца, таму і назва такая ("ломкая").

Сустрэча са змяёй не вельмі прыемная, а калі яна заканчваецца ўкусам, – удвая. Даведацца, якая змяя ўкусіла, – ядавітая ці неядавітая, лёгка. Ад укусу неядавітай рана адна, зубчастая; ядавітая змяя пакідае дзве круглыя ранкі. Калі вас укусіла гадзюка, трэба як мага хутчэй выцягнуць яд з ранкі – лепш з дапамогай медыцынскіх банек. Затым прыпячы рану распаленым нажом. Калі пад рукой няма ні банькі, ні нажа, можна пакласці ў ранкі па крышталіку марганцоўкі і капнуць на яе вады. Пасля чаго выклікаць моцнае потавыдзяленне і як мага хутчэй звярнуцца да ўрача.

Галоўная медсястра раённай бальніцы Вілейкі **Аксана Канівец** гаворыць, што сёлета па дапамогу звярнулася болей за 10 чалавек, укушаных гадзюкай. Апошні выпадак асабліва цяжкі, жанчына нават ляжала ў рэанімацыі. На шчасце, ўсё скончылася добра, цяпер яе выпісалі.

Так што лепей засцеражыцеся на Узвіжанне ісці ў лес, бо беражонага і бог беражэ.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Капуста, тушаная з яблыкамі



**500 г капусты, 2 яблыкі, 1 цыбуліна, 50 г маргарыну, 100 г смятаны, 1 лыжачка мукі, цукар, соль, зеляніна.**

З качана выдаліць верхняе лісце, затым капусту абмыць, тонка нашынкаваць, дадаць дробна нарэзаную цыбулю, абмяць рукамі, уліць гарачую ваду, пакласці маргарын і паставіць тушыць. Калі капуста будзе амаль гатовая, пакласці ў яе памытыя і надзертыя на буйной тарцы разам са скуркай яблыкі, перамяшаць і тушыць да гатоўнасці. Затым запраўіць смятанай, змешанай з мукой, усыпаць цукар, соль, закіпяціць. Перад падачай пасыпаць парэзанай зелянінай.

## Мус з яблыкаў

**2-3 яблыкі, 2-3 лыжкі цукру, 2 бялкі сырых яек, карыца.**

Яблыкі ababраць, надзерці на дробнай тарцы, бялкі ўзбіць у густую пену, затым паступова дадаць цукар і ўзбіваць, пакуль ён поўнасцю не размяшаецца. Затым перамяшаць узбітыя бялкі з яблыкамі, выкласці на сподачкі, пасыпаць карыцай і падаць.

■ НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

24 верасня – **Хвядора, Сяргей, Герман, Дзмітрый, Ія.** "На Тадору ўсякае лета канчаецца".

27 верасня – **Узвіжанне** (Здвіжанне). "К Здвіжанню ўсё павінна быць здзвінута", г. зн., усе азімыя і яравыя павінны быць звезеныя з поля.

***Верасень агнём палае і ў лесе, і ў хаце.***

***У верасні адна ягада, ды і тая горкая рабіна.***

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Дождж. Сэр Джордж вырашыў завітаць у бліжэйшае кафэ. Хаця і з некаторай перасцярогай. На ягонае здзіўленне, афіцыянт падышоў адразу ж.

– Два яйкі ўсмятку, калі ласка, – папрасіў сэр Джордж. – І колькі добрых слоў.

Праз чатыры хвіліны вараныя яйкі апынуліся ў яго на століку.

– Сняданак на стале, – заўважыў наведвальнік. – А як наконт добрых слоў?

Афіцыянт нахіліўся і прашаптаў яму на вуха:

– Не ешце гэтыя яйкі.

## ВІНШАВАНКІ

**Любімы**, з днём нараджэння! Я звёзд дарить тебе не в силах, но боль и радость разделю с тобой, единственный и милый. Все потому, что я люблю. *Твой Зайчык.*

Віншуем **Наташу Чаховіч** з 16-годдзем! Жадаем у гэты сонечны дзень шчасця, маладосці, усяго таго, што завецца дабром. *Бабуля і дзядуля.*

Сардэчна віншуем з юбілеем **Валянціну Іванаўну Гурновіч**! Жадаем здароўя, дабрабыту, душэўнага спакою, поспехаў у працы. *Сям'я Шапшалевічаў.*

**Валянціне Іванаўне Гурновіч**! Дарагая дачушка, віншуем цябе з 40-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, радасці. *Твае бацькі.*

Віншуем з юбілеем **Валянціну Іванаўну Гурновіч**! Жадаем шчасця, даўгалецця, моцнага здароўя, усяго самага найлепшага. *Муж, дочкі.*

Паважаная **Валянціна Іванаўна Гурновіч**! Віншуем з юбілеем! Жадаем здароўя, поспехаў ва ўсім і заўсёды. *Сям'я Пешчыкаў.*

Дарагую дачушку
**Наталлю Чаховіч**
з Вілейкі віншую з 16-годдзем!
Жадаю здароўя, шчасця,
поспехаў у жыцці і вучобе.



День рождения – особая дата,
Этот праздник ни с чем не сравнить.
Кто-то добрый придумал когда-то
Имениннику радость дарить.
Пусть не будет ни боли, ни горя,
Даже грустных не будет пусть слов.
Пусть всегда будет радости море.
Море счастья и море цветов
Пожелать тебе в жизни готова
Чтоб звезде твоей долго гореть,
Жить в почете, всегда быть здоровой
И душой никогда не стареть.

*Мама.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Калі вы адзінокія, без шк/зв., працавітыя, нарадзіліся пад знакам Дзевы, Рыбы, Скарпіёна, у год Авечкі. Сабакі і вам ад 40 да 48 год, то патэлефануйце адзінокаму мужчыне 46/172/82. Дзіця не перашкода. Т. у Маладзечне 74710 (з 19⁰⁰ да 21⁰⁰).

Мужчына пазнаёміцца для сустрэч з жанчынай да 38 год. Пра сябе: 40/177/74, адзінокі, жыллём і матэрыяльна забяспечаны. Маладзечна-4, п/п МС0182929.

Для сур'ёзных адносін пазнаёмлюся з мужчынам без шк/зв. Пра сябе: 46/75/167. Маладзечна-4, д/з п/п МС0217216.

Мужчына, 25/176/76, разведзены, пазнаёмлюся з добрай дзяўчынай, якая мяне зразумее. 222310, Маладзечна-4, а/с 56.

Аля, 52/164/67, разведзеная, з жыллём. Пазнаёмлюся з гаспадарлівым чалавекам для сумеснага жыцця. 222410, Вілейка-1, п/п МС0100846.

Пазнаёмлюся з добрым мужчынам з праблемамі жылля. Пра сябе: разведзеная, 31/170/60, сімпатычная, з пачуццём гумару, без жыллёвых праблем. Маладзечна-1, п/п МС0063287.

Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай. Пра сябе: 46/170/75, не куру, не п'ю гарэлкі, жыллём забяспечаны. Маладзечна-6, п/п МС0367626.

Малады мужчына, разведзены, ёсць іншамарка, шукае жанчыну да 35 год, з кватэрай. Маладзечна-6, МС0033116.

Жанчына, 36 год, разведзеная, пазнаёміцца з мужчынам для адносін, пабудаваных на даверы і ўзаемаразуменні. Маладзечна-7, п/п МС0391950.

Пазнаёмлюся з жанчынай без шк/зв., можна з дзіцем. Пра сябе: 38 год, 162/60, жыву ў сваім доме. Вілейка-2, п/п МС0315241.

